АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

6 верасня 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 36 (2698)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ



## ДАЗВОЛЬ, НАРАЧ, ЗНОЎ З ТАБОЙ СПАТКАЦЦА...

**На беразе казачнага, авеянага песнямі і паданнямі возера Нарач 48-мы раз адбылося свята цудоўнай, велічнай і магутнай беларускай народнай песні.**

**Харавыя і харэаграфічныя калектывы, вакальныя ансамблі з усіх куткоў Міншчыны з'ехаліся на нарачанскую зямлю, каб прыняць удзел у традыцыйным фестывалі харавога мастацтва "Пеўчае поле".**

Заканчэнне на 2-й стар.



АФІЦЫЙНА

У Міністэрстве замежных спраў адбылася сустрэча кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча з кіраўнікамі дыпламатычных місій і іх прадстаўнікамі, акрэдытаванымі ў Рэспубліцы Беларусь. Сустрэча, арганізаваная ў адпаведнасці з пажаданнямі дыпламатычнага корпуса, была прысвечана падрыхтоўцы і правядзенню парламенцкіх выбараў.

У ходзе свайго выступлення М. Мясніковіч прадставіў падрабязную інфармацыю пра стварэнне ўмоў для правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў, праінфармаваў прысутных аб практычных мерах па рэалізацыі рэкамендацый міжнароднай супольнасці, якія прымаюцца кіраўніцтвам дзяржавы.

У адпаведнасці з гэтымі рэкамендацыямі ў выбарчае заканадаўства Рэспублікі Беларусь унесены істотныя змяненні і дапаўненні. Зараз вядзецца работа па прыняццю адпаведных падзаконных актаў, якія тычацца парадку доступу кандыдатаў у дэпутаты да дзяржаўных СМІ; пашырэння функцый Нацыянальнага сходу; выконваюцца ўмовы гарантаванага Прэзідэнтам Беларусі А. Лукашэнкам перыяду даверу на час падрыхтоўкі і правядзення выбараў.

Кіраўнік Адміністрацыі вычарпальна адказаў на ўсе пытанні. Выслухаўшы пажаданні прадстаўнікоў дыпкорпуса, Міхаіл Мясніковіч згадзіўся праводзіць падобныя сустрэчы рэгулярна.

**Прэс-служба МЗС.**

ГАСЦЁЎНЯ

## КАПЛІЦА Ефрасінні ПОЛАЦКАЙ З'ЯВІЦЦА Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ

Больш за 20 працэнтаў жыхароў Калінінградскай вобласці Расійскай Федэрацыі — беларусы. Асабліва многа нашых землякоў сярод рыбакоў і ваенных маракоў. У балтыйцаў нават ёсць жартаўлівая прымаўка: "З пінскіх балот усе кінуліся ў флот". І сапраўды, беларускія юнакі, не маючы на радзіме магчымасці бачыць моры-акіяны, тым не менш мараць пра іх і выбіраюць сабе нялёгкія мужчынскія прафесіі, звязаныя з рызыкай.

Там сем'ямі абзаводзяцца і застаюцца на пастаяннае месца жыхарства. Але ў сэрцах жыве памяць пра Беларусь, пра свае карані. Можа таму і нараджаюцца мастацкія калектывы, як, напрыклад, жаночы ансамбль у Гур'еўску, які выконвае беларускія песні. Яны дапамагаюць справіцца з сумам па радзіме. А калі нядаўна ў самым вялікім памяшканні Калінінграда — Палацы чыгуначнікаў праводзілася канферэнцыя па стварэнню гарадскога аб'яднання беларусаў, зацікаўленых людзей сабралася столькі, што яблыку не было дзе ўпасці. І ўсе прыйшлі з прапановамі і ідэямі. Падчас канферэнцыі была заснавана грамадска-нацыянальная арганізацыя "Калінінградскае зямляцтва беларусаў". Абраны савет і праўленне. А недзе праз 1,5—2 месяцы плануецца ўсе аддзяленні таварыства па Калінінградскай вобласці аб'яднаць у адно рэгіянальнае. Пра гэта нам паведамілі госці рэдакцыі: Іосіф ГРЭЧКА — старшыня грамадскай нацыянальна-культурнай арганізацыі "Калінінградскае зямляцтва беларусаў"; Аляксандр КАЗАКОЎ — кіраўнік інфармацыйнага праекта "Крыніца" на Калінінградскім радыё (за два гады існавання праграма заваявала высокі рэйтынг, у яе планах абмен матэрыяламі з беларускімі сродкамі масавай інфармацыі); Валерый АНІПКА ўзначальвае інфармацыйнае бюро ў Калінінградскім зямляцтве.

Заканчэнне на 2-й стар.

ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

### БЛІЦ-АПЫТАННЕ НА ВУЛІЦАХ МІНСКА

Прызнацца, пакуль не даводзілася чуць, як жа адносяцца мінчане да тых, каго ў іх горад прывяла бяда. Каб выявіць гэта, у цэнтры Мінска, ля плошчы Перамогі, дзесяці прахожым былі зададзены тры пытанні:

- як вы лічыце, ці ёсць у Мінску бежанцы?
- ці даводзілася вам сутыкацца з бежанцамі?
- вашы адносіны да бежанцаў?

Калі абагульніць, то мы атрымалі наступныя адказы:

- шэсць чалавек лічаць, што ў Мінску шмат бежанцаў, два — што мала, адзін чалавек адказаў коратка: яны ёсць; адзін мяркуе, што павінны быць;
- палова апытаных сцвярджаюць, што сутыкаліся з бежанцамі, палова — не;
- двaім шкада бежанцаў, чацвёра ставяцца да іх нейтральна, чацвёра бачаць у іх прысутнасці ўзнікненне новых праблем для сябе.

Увогуле, адчувалася, што ўяўленне аб бежанцах і іх праблемах у мінчан цьмянае.

Я асабіста да гэтага часу прымаў за бежанцаў таджыкскіх цыган, якія запаланілі горад і жабруюць у транспарце і пераходах. Напэўна, многія мае субяседнікі таксама прынялі іх за бежанцаў.

Распытваў
**Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**

Працяг тэмы на 3-й стар.

СВЯТЫ

### ПІСЬМЕНСТВА ПА-ЗАСЛАЎСКУ



Сёлета Дзень беларускага пісьменства прайшоў у Заслаўі — старажытным горадзе. 3 верасня туды з'ехаліся жыхары рэспублікі і госці з-за мяжы.

Праграма была багатай і разнастайнай. Прэзентацыя выдавецтваў, газет, часопісаў, вялікае дзіцячае свята, у ходзе якога маладыя таленты выпусцілі юнкораўскую газету, выступленні самадзейных калектываў, продаж разнастайных прысмакаў прадпрыемстваў Мінскай вобласці і нават святочная латарэя. Вечарам удзельнікаў і гасцей чакаў канцэрт артыстаў беларускай эстрады і рознакаляровы феерверк.

## ПРЫВІТАННЕ, ШКОЛА!



**ПАДРУЧНІКІ ЧАКАЛІ НА ПАЛІЦАХ.** За школьныя парты сёлета села 1,5 мільёна дзяцей. 130 тысяч прыйшлі ў школу ўпершыню.

Клопаты па забеспячэнню падручнікамі ўзяла на сябе дзяржава. На іх выданне з бюджэту рэспублікі выдзелена 5 мільярдаў рублёў. У поўным аб'ёме і ў тэрмін выдадзены ўвесь камплект падручнікаў для дзяцей трэцяга класа, якія ў гэтым годзе першымі будуць вучыцца па праграме 12-гадовай школы.

**Фота Зінаіды МІШУРЫ.**

## ГАСЦЁЎНЯ

# КАПЛІЦА Ефрасінні ПОЛАЦКАЙ З'ЯВІЦЦА Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ

Пачатак на 1-й стар.

Калінінградскія беларусы шмат расказвалі пра тых нашых землякоў, чые імёны вядомыя ўсёй Расіі. Дзякуючы ім, мацуецца павага і да Беларусі. Згадваліся Віктар Будоўскі — кіраўнік Калінінградскай чыгункі; спадар Цімашэнка — доктар эканамічных і тэхнічных навук, начальнік Балтыйскай дзяржаўнай акадэміі, якая рыхтуе кадры для флоту — рыбалоўнага і транспартнага; адмірал, прафесар Адам Рымашэўскі — начальнік ваенна-марскога вучылішча; Аляксандр Хмурчык — галоўны рэдактар газеты "Калінінградская праўда"; спадар Савіч — галоўны хірург вобласці, якога ведае амаль кожны калінінградзец, урач, як кажуць, "ад Бога"; епіскап Калінінградскі Ўладыка Панцеляймон; Іван Шурыкаў — "чалавек-легенда", у час другой сусветнай вайны апынуўся ў Калінінградзе, пасля працаваў камбайнерам, трактарыстам, стварыў і ўзначаліў калгас, які не разваліўся, як многія іншыя, існуе і сёння, праўда, мае назву — акцыянернае таварыства.

Нашы госці з Калінінградскай вобласці — людзі надзвычай занятыя і захопленыя працай, але кожны з іх адчувае сябе беларусам і шмат часу і намаганняў аддае рабоце зямляцтва.

Расказвалі яны і пра цікавыя эпізоды з жыцця нашых землякоў з Балтыйскага ўзбярэжжа. Напрыклад, нядаўна там праходзіла Міжнародная рэгата. Праўленне зямляцтва дамовілася з віцэ-адміралам Васілём Апановічам, каб на крэйсерскай яхце "Аскольд", каманду якой склалі беларусы, разам з расійскім умацавалі беларускі дзяржаўны флаг. Беларускія прадпрымальнікі з Калінінграда набылі для каманды прыгожую форму нацыянальнай культурнай аўтаноміі — касцюмы белага колеру (дарэчы, форму мелі толькі беларусы і палякі). Каманда заняла 1-е месца ў сваім класе і 3-е агульнае, але вельмі ганаровае, бо іх апярэдзілі толькі яхты алімпійскага класа. Усе яхтсмены прызналі высокае майстэрства беларускага экіпажа.

А зусім нядаўна адбылася яшчэ адна прыемная падзея: вартавы пагранічны карабель "Ягуар", на якім служыць шмат беларусаў (дарэчы, і першы камандзір "Ягуара" — беларус, ураджэнец Гродзенскай вобласці Анатоль Лугаўскі, кавалер ордэна "За ваенныя заслугі"), Указам Прэзідэнта Расіі У. Пуціна перайменаваны ў "Мінск".

Урачыстасць адбылася 19 жніўня. З Мінска прыехала прадстаўнічая дэлегацыя, якая ўручыла маракам гербы сталіцы і краіны, дзяржаўны флаг Беларусі, каштоўныя падарункі.

Пагранічнікі Балтыкі і Беларусі даўно ахоўваюць мяжу згодна з адзіным планам сумесных дзеянняў, і наданне аднаму з расійскіх караблёў беларускай назвы носіць сімвалічны характар.

Мацнеюць і эканамічныя сувязі Калінінградскай вобласці з Рэспублікай Беларусь. Падпісана Праграма пабудовы Балтыйска-Беларускага гандлёвага дома. І ён ужо працуе. Кіруе кампаніяй беларус, вядомы прадпрымальнік Міхаіл Грыб. Гандлёвы дом стаў самым галоўным пастаўшчыком тавараў беларускіх вытворцаў і цэнтрам прасоўвання іх на калінінградскі рынак. Міхаіл Грыб аказвае дапамогу і фермерам-беларусам.

У рамках памянёнай праграмы створана сумеснае прадпрыемства "Росбелрыба". Яго арганізаваў таксама член зямляцтва Сяргей Лютарэвіч. Пачыналі работу з набыцця старога карабля, цяпер маюць два рыбалавецкія караблі і адзін транспартна-перапрацоўчы. Так што, магчыма, тыя прадукты мора, што з'яўляюцца на нашым стале, выраблены менавіта на гэтым сумесным прадпрыемстве.

Аднак, як кажуць, не хлебам адзіным... Адным з галоўных напрамкаў работы члены зямляцтва лічаць далучэнне да беларускай культуры. Цяпер актывісты заняты арганізацыяй аддзелаў беларускай літаратуры ва ўсіх раённых, гарадской і абласной бібліятэках. Сродкі на гэта ахвотна ахвяруюць прадпрымальнікі-беларусы. Супрацоўніцтва з Беларуссю зямляцтва пачало з таго, што праз дырэктара асацыяцыі "Свята Радзімы" Ніну Петухову запрасіла на аздараўленчы адпачынак 50 беларускіх дзяцей.

А яшчэ ў калінінградскіх беларусаў ёсць запаветная мара — пабудаваць капліцу ў гонар Ефрасінні Полацкай. Праект ужо падрыхтаваны. Кіраўнік упраўлення лясной гаспадаркі В. Валчуга, таксама беларус, згадзіўся дапамагчы з будаўнічымі матэрыяламі. І месца выбралі цудоўнае — у пасёлку Берагавым, на самай высокай кропцы на ўзбярэжжы Калінінградскага заліва. Пакуль вырашаецца пытанне з выдзяленнем зямельнага ўчастка, але нашы госці ўпэўнены: капліца будзе пабудавана! Бо вельмі цесна перапляліся на калінінградскай зямлі рускія і беларускія карані.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

## СПОРТ



Упершыню ў праграме Алімпійскіх гульняў у Сіднэі будзе прадстаўлены такі від спорту, як скачкі на батуце. Гонар нашай рэспублікі будзе абараняць віцьблянін Дзмітрый Папаруш.

Дзмітрый ПАЛЯРУШ (на здымку) — заслужаны майстар спорту, чэмпіён свету ў індывідуальных, сінхронных і камандных спаборніцтвах з 1988 па 1996 год, чэмпіён Еўропы з 1987 па 1995 год, неадназовы пераможца і прызёр многіх найбуйнейшых сусветных і еўрапейскіх турніраў.

**БелТА.**

## ЗДАРЭННІ

**ГРАМАДЗЯНІН УКРАІНЫ СПРАБАВАЎ НЕЗАКОННА ЎВЕЗЦІ Ў БЕЛАРУСЬ ПАРТЫЮ МАБІЛЬНЫХ ТЭЛЕФОНАЎ.** Памежнікі Смаргонскага пагранатрада прадухілілі незаконны ўвоз у краіну партыі мабільных тэлефонаў і зарадных прылад да іх.

Як паведамілі БелаПАН у прэсслужбе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў рэспублікі, 97 мабільных тэлефонаў і 20 зарадных прылад былі знойдзены памежнікамі пры аглядзе ў пункце пропуску "Каменны Лог" на беларуска-літоўскай мяжы аўтамабіля "Пежо", якім кіраваў грамадзянін Украіны. Кантрабандны груз быў схаваны пад сядзеннем вадзіцеля. Згодна з ацэнкай, праведзенай у мытных органах, агульны кошт партыі тэлефонаў і зарадных прылад склаў каля 3 мільёнаў рублёў.

Трэба адзначыць, што гэта не першы выпадак канфіскацыі на мяжы мабільных тэлефонаў. У сярэдзіне красавіка пры афармленні ў пункце пропуску "Гродна-1" пасажырскага цягніка "Варшава — Вільнюс", які прыбыў з Польшчы, у адным з вагонаў нарадам памежнікаў былі знойдзены 16 тэлефонаў вытворчасці фірм "Nokia", "Alcatel", "Philips". Тады гаспадара кантрабанднага грузу, які мытныя органы ацанілі ў 1 мільён рублёў, выявіць не ўдалося.

## ЖНІВО-2000



**Максім ФЕДАРЭНКА (на здымку) вучыцца ў Клімавіцкім саўгас-тэхнікуме. Здольны і энергічны хлопец, ён не першы год працуе на жніве памочнікам камбайнера. Сёлета ў калгасе "Вялікі Кастрычнік" Крычаўскага раёна разам з лепшым камбайнерам раёна Васілём Веліканавым камбайнам "Дон-1500" яны намалацілі больш трохсот тон збожжа.**

***

**Нясвіжскі раён — сярод лідэраў жніва ў Мінскай вобласці. У калектыўным сельскагаспадарчым прадпрыемстве "Радзіма" сярэдняя ўраджайнасць па гаспадарцы склала каля 40 цэнтнераў з гектара. Механізатары ўбралі ўраджай без страт.**



БелТА.

## ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ

Пачатак на 1-й стар.

# ДАЗВОЛЬ, НАРАЧ, ЗНОЎ З ТАБОЙ СПАТКАЦЦА

Прыгожая і раздольная беларуская песня нарадзілася і вырасла на шырокім сялянскім полі. З ёю нашы продкі аралі, касілі, спявалі на шматлікіх святах і ў час застолля. З пакалення ў пакаленне перадавалася яна ў спадчыну і ва ўсёй сваёй спрадвечнай красе, велічнасці і магутнасці дайшла да нашых дзён. Кожны год у сярэдзіне лета гучыць беларуская песня на маляўнічых берагах Нарачы і, падхопленая блакітнымі хвалямі шматлікіх азёр, разносіцца па ўсёй Мядзельшчыне.

Па традыцыі свята праходзіць ля велічнага манумента ў памяць тых, хто змагаўся з фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. І гэта не выпадкова. Бо край нарачанскі, край блакітных азёр яшчэ і край партызанскай славы. Дзесяткі брыгад народных мсціўцаў, чые высечаныя з каменя назвы ўздымаюцца ступенямі да манумента на Кургане Славы, дзе праходзіць "Пеўчае поле", вялі на гэтай дзівоснай, авеянай песнямі зямлі непрымірымую барацьбу з жорсткім ворагам.

Даўно адгрымелі апошнія залпы той жудаснай вайны. Але памяць пра тых, хто адстаяў свабоду і незалежнасць нашай Радзімы, хто падарыў нам прыгожае і вольнае жыццё, назаўсёды засталася ў помніках і абелісках, што ўздымаюцца па ўсёй беларускай зямлі. Таму гонар адкрыць свята прадаставілі ветэрану другой сусветнай Міхаілу Чарняўскаму, ад факела ў руках якога ўспыхнула полымя Агню Славы. Потым да помніка леглі гірлянды і кветкі...

...Быццам нарачанскія чайкі, успырхваюць на прыступках абеліска дзяўчыны ў белым адзенні. І пачынаецца святочны канцэрт. Адкрываюць яго гаспадары — ансамбль народнай песні "Скарбніца" гарадскога Дома культуры.

Яго на канцэртнай пляцоўцы змяняе народны ансамбль беларускай песні "Медуніца" Палаца культуры ВА "БелАЗ" (Жодзіна). Галоўная адметнасць калектыву — ён выконвае толькі беларускія народныя песні.

Ансамбль песні і танца "Спадчына" Маладзечанскага ГДК званне "народны" носіць ужо 37-мы год. Гэты старэйшы музычны калектыў вобласці адзначае зараз свой саракавы творчы юбілей. Геаграфіі яго гастрольных вандровак можна па-добраму пазайздросціць: Балгарыя, Венгрыя, Літва, Германія, Італія... "Спадчына" кожны год прымае ўдзел у фестывалі фальклору, сёлета — у Турцыі.

Вакальны ж ансамбль "Берагіня" Стаўбцоўскай школы мастацтваў на фестываль прыехаў упершыню. З гэтай нагоды я папрасіў яго кіраўніка Тамару Барэхаву падзяліцца сваімі ўражаннямі пра святочнае мерапрыемства.

— Усё, што мы тут бачым, проста цудоўна: і людзі, і прырода, і нейкая асаблівая ўзнёслая атмасфера ўрачыстасці, — гаворыць Тамара. — Такія мерапрыемствы ўзвышаюць чалавечую душу і неацэнныя ў прафесійным узбагачэнні. Зараз мы імкнёмся абараніць званне "народнага", таму кожны дзень старанна працуем над чысцінёй гучання, гармоніяй музыкі і слоў, вобразам песні. У калектыву значны творчы патэнцыял, мы шукаем выхад на вялікую аўдыторыю. Наша мара — запісацца на прафесійнай студыі. Але для гэтага патрэбны грошы. Вось каб знайшоўся якінебудзь мецэнат і дапамог нам.

Сваё меркаванне наконт фестывалю выказаў і намеснік начальніка ўпраўлення культуры Мінаблвыканкама Канстанцін Мішын:

— Гэта вельмі добра, што беларусы захавалі сваю народную песню ў спрадвечнай прыгажосці і перадаюць яе магутную, чароўную сілу ў наступнае тысячагоддзе. У бліжэйшай будучыні фестываль "Пеўчае поле" плануецца зрабіць рэспубліканскім. І тады на бераг блакітнай Нарачы з'едзецца ўся Беларусь, народная песня загучыць адсюль шматгалосым хорам па ўсёй краіне.

**Аляксандр ДЫНІКАЎ.**
**Фота Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**



ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ



# ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

## *АФГАНСКІЯ ДЗЕЦІ МАЛЮЮЦЬ... ВАЙНУ*

**Дзеці... Іх непасрэднасць, чысціня, шчырасць заўсёды захапляюць і вабяць нас, дарослых. Іх малюнкі, розныя вырабы могуць пра многае расказаць, раскрыць свет дзіцяці, яго пачуцці і настрой. "Гэтыя дзеці часцей малююць танкі, самалёты, страляніну, а недзе ў куточку — сонейка, кветкі і подпіс: "Павінен быць мір", — так гаворыць пра дзяцей афганскіх бежанцаў Нона КЛІМЕНКА — кіраўнік кансультатыўнага цэнтра праекта УВКБ ААН у Беларусі па падтрымцы дзяцей бежанцаў, які рэалізуецца на базе Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі (ЦТДіМ) "Эўрыка" Фрунзенскага раёна горада Мінска.**

**Нона Барысаўна згадзілася расказаць пра гэты праект.**

**— Нона Барысаўна, калі і як узнік праект?**

— У канцы стагоддзя постсавецкае грамадства сутыкнулася з найскладанейшымі праблемамі — падзелаў, войнаў, бежанцаў... Самымі бездапаможнымі аказаліся дзеці. Дапамогу ў вырашэнні гэтых праблем прапанавала Упраўленне Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў (УВКБ ААН). У канцы 1998 года грамадская арганізацыя Беларускі Зялёны Крыж сумесна з супрацоўнікамі УВКБ ААН распрацавала праграму падтрымкі дзяцей бежанцаў. Была выяўлена катэгорыя бежанцаў, якая выклікала найбольшую заклапочанасць УВКБ ААН — дзеці і моладзь з Афганістана. Іх было 76 чалавек, зараз цэнтр наведвае 50 дзяцей.

**— У чым сутнасць праекта?**

— Мэта праекта — паскорыць стварэнне шматфункцыянальнай сістэмы для рэабілітацыі, адаптацыі і сацыяльнай інтэграцыі ў беларускае грамадства дзяцей, якія падпадаюць пад дзеянне Канвенцыі ААН аб бежанцах 1951 года і пражываюць у Рэспубліцы Беларусь без вызначэння іх легальнага статуса.

На сённяшні дзень праект уяўляе сабой комплексную сістэму, накіраваную на дасягненне доўгатэрміновага эфекту ў адносінах да дзяцей бежанцаў, што пражываюць у Рэспубліцы Беларусь. У рамках праекта таксама прымаюцца меры па адаптацыі дзяцей да сацыяльных і экалагічных умоў навакольнага асяроддзя, якія хутка змяняюцца. Пражыванне ў такіх умовах патрабуе адпаведнага культурнага і адукацыйнага ўзроўню данай катэгорыі насельніцтва.

Дзеці па жаданню наведваюць розныя гурткі. Хлопчыкі ў асноўным выбіраюць спартыўныя (бокс, кікбоксінг, усходнія адзінаборствы), музычны (гітара, фартэпіяна, інструментальны ансамбль, сольныя спевы), дзяўчынкі — музычны, гурток кройкі і шыцця, вязанне. Сёлета па жаданню дзяцей створаны яшчэ і камп'ютэрны гурток.

На сёння галоўным дасягненнем праекта УВКБ ААН з'яўляецца стварэнне на базе цэнтра кансультацый для дзяцей бежанцаў. У ходзе правядзення заняткаў па роднай мове (дары) з бежанцамі было вызначана, што пачатковы ўзровень ведаў сярод дзяцей значна вар'іруецца. Вызначылася група дзяцей (ад 8 да 15 гадоў), якія не атрымалі ніякай адукацыі наогул і не наведвалі беларускія школы. Праблема ў тым, што ў сілу цяжкасцей з рускай мовай і значнага адрыву ва ўзросце даная група дзяцей не можа быць уключана ў беларускую сістэму адукацыі. У сувязі з гэтым план кансультацый па агульнаадукацыйных прадметах беларускай школы, роднай мове (дары) і культуры для іх быў распрацаваны і ініцыяваны ў красавіку 1999 года. Асноўных накірункаў тры:

◇ *кансультацыі па навучанню роднай мове (мовы дары і пушту): 2 групы з рознай моўнай падрыхтоўкай;*

◇ *асноўныя элементы пачатковай адукацыі для групы дзяцей, якія не наведваюць беларускія школы (мовы дары, пушту, руская, матэматыка, чытанне, літаратура, гісторыя, чалавек і свет);*

◇ *для таго каб падкрэсліць важнасць інтарэсаў і культурных каштоўнасцей дзяцей бежанцаў, заняткі па роднай культуры былі арганізаваны ў дадатак да асноўных прадметаў (афганская літаратура і гісторыя, мастацтва і жывапіс).*

Расклад заняткаў распрацаваны сумесна з афганскімі настаўнікамі (з бежанцаў) і скаардынаваны ў адпаведнасці з пажаданнямі і прапановамі дзяцей. Супрацоўнікі цэнтра і УВКБ ААН сумеснымі намаганнямі пастараліся стварыць для афганскіх дзяцей атмасферу даверу і супрацоўніцтва, дапамагчы ім і адцягнуць ад таго цяжкага становішча, у якім яны апынуліся. Гэта стала магчымым і дзякуючы фінансавым укладанням УВКБ ААН, якое выдзеліла сродкі на рамонт памяшканняў і аднаўленне тэхнічнай базы цэнтра.

**— Раскажыце, як праходзіць адаптацыя дзяцей да новых умоў жыцця. Якія мерапрыемствы для гэтага праводзяцца?**

— Сёння цэнтр стаў своеасаблівым месцам сустрэчы. Дзеці і іх бацькі маюць магчымасць сабрацца разам і ўдзельнічаць у сумесных культурных мерапрыемствах. У студзені 1999 года ў цэнтры было арганізавана святкаванне афганскага нацыянальнага свята, якое ініцыіравалі бацькі. Усе неабходныя прыгатаванні былі зроблены дзецьмі, што дазволіла ім прадэманстраваць свае таленты перад роднымі і сваімі беларускімі сябрамі. У маі 1999 года афганскія дзеці прымалі ўдзел у святкаванні 25-годдзя цэнтра і ўдзельнічалі ў спартыўных спаборніцтвах і конкурсе дзіцячай моды. У чэрвені таго ж года на базе ЦТДіМ "Эўрыка" дзейнічаў летні гарадскі лагер "Неўтаймоўны", дзе аднačасова адпачывалі афганскія і беларускія дзеці. Кожны змог знайсці занятак па душы. Папулярнасцю карысталіся спартыўныя мерапрыемствы, якія да таго ж дазволілі вырашыць арганізацыйныя праблемы і праблемы адаптацыі да сацыяльнага асяроддзя за даволі кароткі час. У працэсе зносін з беларускімі дзецьмі дзеці-бежанцы хутчэй авалодвалі размоўнай мовай.

Летнікам былі арганізаваны экскурсіі ў Бярэзінскі запаведнік, Мір — Нясвіж, Раўбічы, Батанічны сад, прагулка на цеплаходзе па Мінскім моры. Экскурсіі мелі вялікую пазнавальную каштоўнасць, бо ўзровень ведаў афганскіх дзяцей аб Беларусі і яе гісторыі вельмі нізкі. Для многіх з іх гэта было адзінай магчымасцю падарожнічаць па Беларусі з-за існуючых фінансавых цяжкасцей у сем'ях бежанцаў.

А ў ліпені і жніўні 1999 года група афганскіх дзяцей адпачывала ў аздараўленчым лагеры "Церамок" разам з дзецьмі з чарнобыльскай зоны. Усе яны прайшлі медыцынскае абследаванне, у выніку індывідуальнай дыягностыкі атрымалі рэкамендацыі па прафілактыцы і лячэнню. Сумеснае пражыванне і агульная творчая дзейнасць афганскіх і беларускіх дзяцей садзейнічалі набыццю вопыту зносін прадстаўнікамі дзвюх розных культур, фарміраванню пазітыўных адносін да праблем бежанцаў.

**— А якія праблемы ўзнікаюць у афганскіх дзяцей?**

— Вялікая праблема — няведанне рускай ці беларускай моў. Таму, каб вырашыць яе, мы павялічваем колькасць заняткаў па мове, і, канешне, вышэйпералічаныя мерапрыемствы таксама садзейнічаюць гэтаму. Яшчэ адна праблема існуе ў афганскіх дзяўчат: яны сарамлівыя, не жадаюць займацца разам з хлопцамі, што звязана з нацыянальнымі традыцыямі. Але і гэты бар'ер пераадольваецца.

Згодна з праектам "Адаптацыя і інтэграцыя дзяцей-бежанцаў у Беларусі", на базе ЦТДіМ "Эўрыка" праведзена псіхалагічнае даследаванне, асноўнай мэтаю якога было вывучэнне больш за 20 магчымых праблем, якія ўзнікаюць у дзяцей-бежанцаў у працэсе іх адаптацыі і інтэграцыі на тэрыторыі Беларусі. У адпаведнасці з распрацаваным планам даследавання апытана 27 дзяцей-афганцаў ва ўзросце ад 8 да 16 гадоў.

Апытанне дазваляе высветліць асноўныя цяжкасці дзіцяці як на ўнутрысасобасным узроўні, так і міжасобасных узаемаадносінах у малых (сям'я, сваякі, сябры, аднакласнікі) і вялікіх сацыяльных групах, ацаніць на пазітыўнасць або негатыўнасць узаемасувязі паміж гэтымі складаючымі.

Мусіць, варта тут яшчэ згадаць і пра семінары "Школа лідэра", апошні з якіх праводзіўся з 27.03 па 1.04.2000 года ў санаторыі "Лазурны". У ім удзельнічалі афганскія дзеці і беларускія школьнікі з чарнобыльскай зоны. Асноўная мэта такіх семінараў — павысіць узровень адукаванасці патэнцыяльных лідэраў: удасканальваць веданне дзяржаўных моў, пазнаёміць з курсам "Правы дзіцяці", даць асновы экалагічных ведаў, пазнаёміць з культурай Беларусі, навучыць жыць у калектыве з беларускімі дзецьмі, пашырыць веды па нацыянальнай культуры, аздаравіць, навучыць культурнаму правядзенню вольнага часу. Напрыклад, галоўная мэта "Літаратурнай школы" — разняволіць дзяцей, навучыць не баяцца самастойнай творчасці. На апошнім занятку настаўнік папрасіў дзяцей выказаць адным словам пачуццё, якое засталося пасля семінара. Гэтымі словамі аказаліся "шчасце", "сяброўства", "радасць".

Практыка паказала, што афганскія бежанцы, якія знаходзяцца ў калектыве з беларускімі школьнікамі, дзе пануюць узаемаразуменне і сяброўства, здольныя набыць веды і ўпэўненасць.

**Гутарыла Святлана КАРПУЧОК.**























*ФОТАХРОНІКА: прадстаўнікі УВКБ ААН разам з афганскімі дзецьмі; святкаванне Новага 2000 года; на экскурсіі ў лесе; увасабленне сваіх думак і пачуццяў на паперы падчас семінара "Школа лідэра"; на занятках па правах дзіцяці ў "Школе лідэра"; афганскія дзеці ў Беларускім Зялёным Крыжы выпускаюць інфармацыйны бюлетэнь на сваёй роднай мове (дары) для афганскіх бежанцаў; у час развіваючых гульняў; літаратурны семінар; на ўроку рускай мовы; экалагічны паход летам 1999 года (летнік "Церамок"); танцуюць беларускія і афганскія дзеці на свяце ў лагеры "Церамок".*



*кулі рукі ў кайданы, —*
*ушой я вольны чалавек*
*гэткім буду цэлы век!*

*е страшны мне Сібір,*
*астрогі,*
*еч катні над шыяй маёй,*
*оць і скуюць мне*
*рукі й ногі,*
*оць зрэнкі выдзеруць*
*з вачэй, —*
*ушой я вольны чалавек*
*гэткім буду цэлы век!*

кі спакой, раўнавага і ўпэў- сць лірычнага героя-бе- са, беднага, загнанага, зака-

# ІВЕ! НАМІ!

таванага, — гэта найвышэй- шага ўзроўню філасафіч- насць паэзіі Купалы, бо яна народжана звышверай у непераможнасць чалавеча- га імкнення да волі, якую паэт ставіць поруч з сон- цам, з яснасцю дня.

*Ці ж людзі згасіць*
*сонца могуць,*
*Згасіць як свечку,*
*яснасць дня?*
*І волі ж дэспаты*
*не змогуць,*
*воля сонейку раўня.*
*ушой вольны чалавек*
*гэтк уду цэлы век!*
*(1905—1907 гады).*

ушэўная і духоўная разнявo- сць, незалежнасць, заўсёд- раўнавага і знешні спакой, ус- мленне ўласнай годнасці і го- — такім паўстае беларус з аў Янкі Купалы. І ці не вызна- вялікі паэт менталітэт свайго да ўжо тады, у пачатку ста- зя. Ці не ў гэтай душэўнай і ўнай разняволенасці ўбачыў ычайную сілу народа, якая ла магчымасць яму выжыць, аяць у самыя трагічныя мо- ы? Ці не гэты менталітэт бе- са нараджаў новыя спадзя- і ў самога паэта?

мантык па натуры і све- рыманню, Янка Купала быў лютным рэалістам, калі ўзды- нацыянальна-патрыятычныя лемы. Пясняр добра ведаў, за стагоддзі ўціску беларус ўся, што ён беларус, і часта называў сябе тутэйшым. Беларусы блыталі веравызнанне і нацыянальнасць: беларусы-католікі называлі сябе палякамі, а праваслаўныя — рускімі. І гэта таксама не выпадкова. Суседзі беларусаў імкнуліся асіміляваць народ, а таму і выкарыстоўвалі ў гэтых мэтах царкву і касцёл, школу з чужой мовай. А мова беларуса ўжывалася як побытавая і называлася "простай". І тут паэту, публіцысту і асветніку Янку Купалу даводзілася гаварыць селяніну-беларусу, што яго край — Беларусь, а мова — беларуская, якая была дзяржаўнай мовай у Вялікім княстве Літоўскім і гучала на самавітых сходах і судовых працэсах, са старонак кніг, грамат і разнастайных дзяржаўных дакументаў. Янка Купала сваёй паэзіяй вяртае народ да лепшых часоў з гісторыі нашага народа, да курганоў і помнікаў, да славутых імёнаў асветнікаў і заступнікаў народных. Гэтыя тэмы і вобразы сталі асноўнымі ў многіх творах паэта: "Курганы", "З мінулых дзён", "На Куццю"... Але асабліва кранае душу верш "Над сваёй Айчызнай":

*Божа! Гэткі свет тут*
*Моц стварыла твая!*
*Дзе ж мой дом, дзе*
*мой люд?*
*Дзе Айчызна мая?*

*Дзе той час, у яком*
*Тут кіпела жыццё?*
*Свой народ быў кругом*
*І любіў сваё ўсё?*

*Сваю песню ў лад свой*
*Не стыдайся запець*
*І сярмяжкі сівой*
*Не стыдайся надзець!*
*...........*
*Знікла ўсё, як імгла,*
*Няма славы таей;*
*Злая доля змагла*
*І мой край, і людзей!*
*(1906 год).*

Гэта верш-малітва, верш-зварот да найвышэйшай Існасці і да свайго народа з жаданнем адрадзіць нацыянальную свядомасць і гістарычную памяць. А бязмежная скруха паэта за зняважаную народную мараль, за забытую слаўную гісторыю Бацькаўшчыны, за бяспамяцтва такая блізкая нам, такім болем адгукаецца ў душы, быццам Янка Купала побач ідзе па жыцці.

**Алена БУРБОЎСКАЯ,**
**вучоны сакратар**
**літаратурнага музея**
**Янкі Купалы.**

ным края- ася выстава пісу XVIII— аў музея. работы вя- зля І. Крам- Хруцкага. кі, падсвеч- нтыкварыят ю выставач-

ост Міхаіла настольныя XIX стагод- " І. Хруцка-

**дра ХІТРОВА.**



павольна з-за і вялікага ўплыву кевы. Паўстанне арговай, калі не аднаўлення ідэі еларускай су- Пасля паразы ў льныя рухі гэтых жны сваім шля-

Кніжка забяспечана добрым даведачным матэрыялам у выглядзе паказальнікаў, спісаў крыніц, карты і 16 асобных ілюстрацый, сярод якіх многа партрэтаў лідэраў паўстання, у тым ліку Кастуся Каліноўскага.

**Ірына КУРБАТАВА,**
**галоўны бібліёграф**
**Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

СПАДЧЫНА

# КРЫВІЦКАЯ ЦАЦКА



*Івянецкія дзеці.*



*Забаўкі-свістулькі работы івянецкага ганчара Міхася ЗВЯРКО.*

**Ніна ЗДАНОВІЧ,** *археолаг.*

У Мінску, у скверы на плошчы Свабоды, вось ужо некалькі гадоў запар месяцца са сваімі творамі майстры выяўленчага і дэкаратыўнага мастацтва. Ніколі не мінаю іх размаітыя рады, калі шлях праходзіць побач. Як археолаг-кераміст, асабліва ўважліва разглядаю вырабы з гліны, а сярод іх — дробную пластыку. Найчасцей там сустрэнеш цацкі і свісцёлкі. Каго толькі сярод іх няма: і жабкі, і сабачкі, і каты, і нават цмокі — адным словам, увесь жывёльны ды казачны свет. І колер самы "казачны" — жоўта-сіне-бела-брунатны. Зразумела, для нас, людзей XX стагоддзя, гэта толькі цацкі. Іх сімвалічны, а тым больш магічны сэнс даўно страчаны. Аднак не лішнім будзе яшчэ раз вярнуцца да тых часоў, калі на Беларусі фарміравалася традыцыя вырабу глінянай цацкі.

Самыя старажытныя гліняныя цацкі з'яўляюцца ў нас разам з вынаходніцтвам керамікі, у часы неаліту. Гэта мініяцюрныя выявы жывёл-татэмаў, што былі "цацачнымі" хіба што па памерах. У сярэднявеччы аддавалі перавагу цацкам-свісцёлкам. Згодна са старажытнымі паданнямі, менавіта шум і свіст маглі адагнаць нячыстую сілу. Таму свісцёлкі былі своеасаблівымі знакамі-абярогамі, якія насілі з сабою звычайна дзеці. Па гэтай жа прычыне яны сталі ўдзельнікамі абрадавых гульняў і святаў.

Паводле археалагічных раскопак, найчасцей выраблялiся свісцёлкі ў выглядзе коней, коннікаў (каня з вершнікам) і птушак. Ды гэта і не дзіўна: птушка заўсёды лічылася сімвалам цяпла і свету, конь — сімвалам сонца, а коннік — сімвал-абаронца хлебароба, сімвал дабра і справядлівасці. Знаходка свісцёлак падчас археалагічных раскопак — з'ява даволі рэдкая. Сярод матэрыялаў з Мірскага і Гродзенскага замкаў, з Віцебска, Мінска ці Заслаўя выяўлены ад 1 да 3—4 фрагментаў свісцёлак. Таму мы былі прыемна ўражаны нечаканымі знаходкамі 1990—1992 гадоў у Полацку. Былі знойдзены 3 амаль цэлыя і 9 кавалкаў свісцёлак. Прычым 8 свісцёлак — у межах адной пабудовы пачатку — сярэдзіны XVIII стагоддзя. Азнаямленне з археалагічнымі калекцыямі з раскопак Полацка іншых гадоў паказалі, што нашы знаходкі адлюстроўваюць агульныя рысы, уласцівыя полацкай глінянай цаццы гэтага часу, і сведчаць пра наяўнасць адметнай традыцыі.

Што ж гэта за знаходкі? Па тэматыцы яны традыцыйныя для Беларусі: коні, птушкі і вершнікі. Нягледзячы на аднолькавасць сюжэтаў, кожная з цацак уяўляла сабой непаўторны вобраз са сваім характарам і мастацкімі асаблівасцямі. Вось вялікі (8,5 сантыметра ў холцы і 11 сантыметраў даўжынёй), з напружана выгнутай шыяй конік са старанна загладжанымі бакамі і намаляванымі ангобам (белай вадкай глінай) грывай і вупражжу. Маленькія вушкі на прыгнутай галаве і напаўсагнутыя пярэднія ногі ствараюць дынамічны вобраз коніка, які на імгненне прыпыніў сваю ходу і вось-вось памкнецца наперад. Цацка даволі вялікая, і з цяжкасцю кладзецца ў руку нават дарослага чалавека. Уражвае старанная прамалёўка самых дробных дэталей: кропачкамі паказаны не толькі вочы і нос, але нават бровы і зубы каня. Мяркуючы па колькасці фрагментаў, такі конік быў найбольш папулярны.

Зусім іншы другі вобраз. Маленькі конік (вышынёй 5 і даўжынёй 6,5 сантыметра), з моцна адкінутай назад шыяй і выгнутай спінай хутчэй нагадвае казачнага канька-гарбунка, асабліва побач з першым канём. Такую свісцёлку было зручна трымаць даросламу ў пальцах ці дзіцяці ў руцэ. Два такія непадобныя вобразы аб'ядноўвае аздоба: як і вялікі, маленькі конік старанна "запрэжаны" белымі паскамі ангоба.




*Цацкі з Полацка пачатку XVIII стагоддзя з ангобнай размалёўкай.*

Свісцёлкі "коннікі" таксама розныя. У адной з іх фігурка каня адпавядае па памерах і мастацкаму вобразу свісцёлцы першага тыпу. Адрозненне заключаецца ў тым, што гэты конь, дзякуючы проразі на мызе, "усміхаецца". Ды і ангобны роспіс нанесены суцэльна па ўсёй фігурцы ў выглядзе плямак. Аднак у цэлым цацка пакідае ўражанне скульптурнасці і дакладнасці ў трактоўцы вобраза.

Зусім па-іншаму ўспрымаецца яшчэ адзін конь з-пад вершніка. Ён пакідае ўражанне груваcткасці, магутнасці. Міжволі згадваеш коней-дрыкгантаў з "Дзікага палявання караля Стаха" У. Караткевіча. Бачная нават нейкая неахайнасць у апрацоўцы паверхні і выкананні асобных дэталей. Як быццам бы яго рабіла не рука спрактыкаванага майстра, а нявопытная, можа нават дзіцячая. Тым не менш, і на гэтай цаццы добра бачныя тыя ж пластычныя прыёмы стварэння вобраза. Пярэднія ногі каня злучаны разам і дугападобныя, заднія, удвая ніжэйшыя (3 і 1,5 сантыметра адпаведна), маюць форму двух цыліндрычных слупкоў, расстаўленых убакі. Хвост каня ператварыўся ў свістковую адтуліну. Аналагічная і аздоба: паскі і плямы ангобнага роспісу, што імітуюць вупраж і конскую грыву. Адным словам, у паўторы лёгка адшукваюцца аналагі арыгінала.

Хто ж "сядзеў" у сёдлах на такіх коніках? Толькі дзве постаці вершнікаў трапіліся нам сярод полацкіх матэрыялаў. Аднак яны вельмі розныя па характару. Калі адзін — гэта сама зухаватасць, то другі — спакойная разважлівасць. Вялікая ўвага ў абодвух выпадках надавалася дэталям адзення. На адной з фігурак захаваўся галаўны ўбор накшталт магеркі, світка з каўняром-стойкаю і хлясцікам з двума старанна прапрацаванымі гузікамі. Адзенне вершніка, як і конь, размалявана белым ангобам. Што датычыцца яго твару, дык складваецца ўражанне, што майстар больш "шчыраваў" над конскаю храпаю. Дзве кропкі вачэй, трохкутны крывіцкі нос з ноздрамі-шчылінкамі ды вузкая прораз рота — вось і весь вобраз гаспадара.

Акрамя свісцёлак з ангобным роспісам, нам трапіўся кавалак паліванай свісцёлкі і "сукенка" ад лялькі з плямамі абвары. Аднак на фоне распаўсюджаных у Полацку цацак з ангобным роспісам апошнія дзве групы вырабаў выглядаюць выпадковымі знаходкамі.

Матэрыялы з Беларусі паказваюць, што свісцёлкі рабіліся ў большасці гарадоў тэракотавымі і толькі зрэдку паліванымі (зялёнай ці радзей карычневай глазурай). Чаму менавіта ангоб абраны ў якасці аздобы для полацкіх свісцёлак? Адказ на пытанне напрошваецца сам сабою. Вытворчасць цацак, свісцёлак — неад'емная частка мясцовай керамічнай вытворчасці, а значыць, адлюстроўвае яе традыцыі. Нават павярхоўны аналіз познесярэднявечных гліняных вырабаў з Полацка (посуду, кафлі) паказвае, як шырока карысталіся магчымасцямі белай глінкі ганчары. Яшчэ ў канцы XV стагоддзя белы ангоб наносіўся ў якасці грунтоўкі, светлага фону, пад паліву на каф-лі. З канца XVI да XIX стагоддзя ім карысталіся полацкія майстры для вырабу дэкаратыўнай керамікі — шыкоўных талерак, куфляў і кубкаў, размаляваных белым ці падфарбаваных ангобам. Яны прызначаліся для ўпрыгожвання пакояў. Таму размалёўка свісцёлак менавіта белым ангобам — цалкам натуральная з'ява для полацкіх ганчароў. Гэтым дасягаліся дзве мэты: свісцёлка каштавала значна танней за паліваную, а выглядала не менш маляўніча. Не апошнюю ролю адыгрывала і тое, што пры гэтым не павялічвалася рызыка браку ў вытворчасці, які ўзрастае пры вырабе паліваных свісцёлак.

Самабытная па дэкаратыўнай аздобе, традыцыйная паводле вобразаў і мастацкага абагульнення, полацкая школа дзіцячай цацкі можа і павінна быць адроджана. Яна стане новай крыніцай натхнення для сучасных майстроў-цацачнікаў, створыць цудоўнае свята дзецям і, я ўпэўнена, абудзіць светлыя і радасныя ўспаміны пра дзяцінства ў сэрцах дарослых.

ЮБІЛЕІ




90 год назад у вёсцы Новы Пагост Міёрскага раёна нарадзіўся Генадзь Цітовіч, беларускі дырыжор і музыкавед-фалькларыст. Народны артыст СССР і народны артыст Беларусі, ён на падставе асабістых запісаў стварыў вялікую колькасць канцэртных апрацовак для народнага хору ("Рэчанька", "Жаваронaчкі, прыляціце", "Ой, рана на Івана" і іншыя). Генадзь Іванавіч быў стваральнікам і доўгі час мастацкім кіраўніком Дзяржаўнага акадэмічнага хору Рэспублікі Беларусь, які носіць яго імя.

НА ЗДЫМКУ: Генадзь ЦІТОВІЧ з музыкантам і рэстаўратарам музычных інструментаў Уладзімірам ПУЗЫНЕМ. Гэта адзін з апошніх здымкаў Г. Цітовіча, зроблены ў яго кватэры ў красавіку 1985 года, незадоўга да смерці.

ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# *ПЯЧАТКА* УСЯСЛАВА

● **Міхась БЕЛЯМУК**, ЗША.

Ужо каторы раз, перагортваючы "Актовые печати древней Руси X-XV вв.", задаю сабе пытанне, чаму на яе старонках няма пячаткі полацкага князя Усяслава Брачыславіча, які пракняжыў 56 год (1044—1101). Гісторыкі станоўча апісвалі яго княжанне. Напрыклад, Б. Сапуноў адзначыў: "Біяграфія Усяслава — гэта біяграфія адной з самых яркіх асоб XI ст."

Другі выдатны гісторык М. Ціхаміраў пісаў: "Для летапісца Усяслаў уяўляў сабой амаль легендарную асобу, якая была авеяна арэолам таямнічасці. Ён нарадзіўся ад "чаравання". Б. Рыбакоў выказаўся яшчэ больш пахвальна: "Бліскучы Усяслаў... засланіў сабой усіх трох Яраслáвічаў (Ізяслава, Святаслава і Усевалада. — **М. Б.**), прамільгнуўшы на рускім гарызонце, як тая "звезда превелика". Высока ацэньвалі дзейнасць Усяслава ўсе гісторыкі, пачынаючы з В. Тацішчава. За знаходлівасць, энергію і "вешчую душу" полацкі князь Усяслаў Брачыславіч атрымаў народнае імя Чарадзей. Ён апяваецца ў "Слове аб палку Ігаравым", пра яго народ склаў быліны.

Паколькі полацкі летапіс бясследна згінуў, то хрысціянскае імя князя Усяслава Брачыславіча канула ў вечнасць. У іншых летапісных крыніцах яно таксама адсутнічае, бо Усяслаў, "народжаны як вядзьмар, пераўвасабляецца ў ваўка, валодае чарадзейскаю сілаю і ўтрымлівае лучнасць з язычнікамі". На знойдзеных пячатках XI стагоддзя фігурыравала хрысціянскае імя князя, а князі вядомыя пад народным, славянскім імем. Даследчык пячатак В. Янін адшукаў у пісьмовых крыніцах хрысціянскае імя кіеўскага князя Ізяслава Яраславіча і ўсе 9 пячатак з імем Дзімітрый прыпісаў гэтаму князю. Аднак, на наш погляд, не выключана і такая мажлівасць, што два князі, якія жылі ў адзін час, маглі мець адно і тое ж хрысціянскае імя. У такім выпадку даследчык аналізуе эмблемы на знойдзеных пячатках, вызначае іх ідэнтычнасць і адметнасць. Калі эмблемы розняцца паміж сабой, то можна меркаваць, што пячаткі належаць розным князям. Разгледзім пячаткі Ізяслава Яраславіча (1054—1078), які княжыў з двума перапынкамі.

**Пячаткі першага тыпу.** Пячатка на адным баку мае княжацкі знак і па перыметры грэчаскую легенду: "Госпадзі, памажы рабу свайму Дзімітрыю". На другім баку пячаткі адлюстраваны воін у поўны рост са шчытом і дзідаю. Надпіс на дзвюх калонках "Дімітр". Вакол галавы воіна — німб, што азначала, што воін кананізаваны царквою. Гэта Дзімітрый Салунскі, патрон князя Ізяслава Яраславіча. Пячатка знойдзена ў Ноўгарадзе.





**Пячаткі другога тыпу.** Наступныя чатыры пячаткі маюць на адным баку шматпялёсткавую разетку і прыгожа аздоблены абводак, а на другім — пагрудны вобраз воіна са шчытом і дзідаю. Побач, на дзвюх калонках, грэчаскі надпіс: "агіос" (святы) і "Дімітр". Вакол галавы воіна — німб, які сведчыць, што святы — Дзімітрый Салунскі, патрон князя Ізяслава Яраславіча. Пячаткі першага і другога тыпаў бясспрэчна належаць кіеўскаму князю Ізяславу. Пячаткі знойдзены — адна ў Тураве, другая ў Межыгор'і, а дзве — у Вышгарадзе каля Кіева.





**Пячаткі трэцяга тыпу** розняцца ад папярэдніх. На адным баку яны маюць чатырохпялёсткавую кветку, якая стварае грэчаскі крыж, аздоблены завіткамі ліній, а на адваротным баку — фігуру асобы ў поўны рост з круглым невялікім шчытом і дзідаю.





Фігура без німба і грэчаскага надпісу "агіос". Надпіс, што па перыметры пячаткі, падзелены на дзве часткі і чытаецца ў люстэрку "Дзімітрэос". Паколькі Дзімітрый без німба, то гэта азначае, што ён не кананізаваны царквою і з'яўляецца свецкаю асобай. В. Янін, апісваючы пячаткі Святаслава — Мікалая Яраславіча, гэтак пісаў: "Адсутнасць німба ў спалучэнні з княжацкай шапкай дазваляе сцвярджаць, што на пячатках адлюстраваны сам князь, уладальнік булы" (пячаткі. — **М. Б.**). На пячатцы на галаве Дзімітрыя не княжацкая шапка, але візантыйская карона-дыядэма. Ён апрануты ў пышнае адзенне: паверх доўгай тунікі надзеты багаты сакас, што сведчыць аб прыналежнасці да арыстакратычнага кола і пацвярджае, што на пячатцы выява самога князя Дзімітрыя.

Адна пячатка знойдзена ў Ноўгарадзе, другая ў Ваўкавыску, трэцяя ў Палтаўскай вобласці, а чацвёртая згубіла свой пашпарт.

І гэты трэці тып пячатак В. Янін далучыў да папярэдняга толькі на той падставе, што на іх маюцца "разеткі, якія нідзе болей не сустракаюцца". Адваротны бок пячаткі даследчык не аналізаваў. Ён толькі сказаў, што пячаткі трэцяга тыпу не маюць "аналогій у рускай сфрагістыцы".

На наш погляд, уласнікам гэтых пячатак, якія выразна адрозніваюцца ад папярэдніх тыпаў, мог быць іншы князь з ідэнтычным хрысціянскім імем Дзімітрый.

Лічым, што пячаткі трэцяга тыпу з'яўляюцца адаптацыяй візантыйскай сфрагістыкі. Так, на імператарскіх пячатках другой паловы XI стагоддзя з аднаго боку змешчаны імператар у поўны рост. Ён вакол галавы не мае німба. Па перыметры пячаткі легенда, якая падае імя імператара. Пячаткі рэпрэзентуюць імператрыцу Тэадору (1054—1056), Канстанціна X Дуку (1059—1066), Андроніка (1067), Нікіфара III (1078—1081), Аляксея (1081—1118).





На другім баку візантыйскіх пячатак (як і на манетах) адлюстраваны вобраз Хрыста. Такая эмблема выкарыстоўвалася толькі імператарамі візантыйскай імперыі. Таму князь Дзімітрый на сваёй пячатцы замяніў вобраз Хрыста чатырохпялёсткавай кветкай (таксама хрысціянскай эмблемай), якая ў сваёй аснове мела грэчаскі крыж.

Пра перайманне Полаччынай візантыйскіх узораў сведчыць і Радзівілаўскі летапіс. На адной з яго мініяцюр намаляваны полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, які ў чаўне пераплывае Дняпро для сустрэчы з Яраславічамі.



На галаве Усяслава — туфа. Такі галаўны ўбор ужываўся ў Візантыі, яго насілі "сыны і браты імператара". З'яўленне туфы ў Полаччыне ў часы панавання Усяслава Брачыславіча сведчыць аб блізкіх і прыязных адносінах з візантыйскім імператарскім домам.

Гэткія блізкія і прыязныя адносіны працягваліся і пасля смерці Усяслава Брачыславіча. Ігумення Ефрасіння праз свае пасольства атрымала ад імператара Мануіла дрэва Крыжа Гасподняга, часцінку ад труны Багародзіцы, мошчы святых угоднікаў Божых і кроў святога Дзімітрыя. На дзяржальні свайго знакамітага цудатворнага крыжа яна змясціла кроў і ікону святога Дзімітрыя. Усё гэта трапіла на Ефрасіннеўскі крыж не выпадкова. Святы Дзімітрый, праўдападобна, быў патронам полацкага князя Усяслава. І гэты факт сведчыць, што Усяслаў быў хрышчаны і пры хрышчэнні мог атрымаць імя Дзімітрый. Ігумення Ефрасіння, шануючы памяць свайго славутага, паўлегендарнага дзеда і памятаючы, што ён збудаваў слаўны Сафійскі сабор, змясціла на сваім унікальным крыжы ягонага патрона.

Такім чынам, падагульняючы нашы разважанні, лічым, што ўласнікам пячатак трэцяга тыпу з'яўляецца менавіта полацкі князь Усяслаў Брачыславіч, які меў хрысціянскае імя Дзімітрый.

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ЭСТОНІЯ

Вялікі дзякуй за №№ 26, 27, 28 "Голасу Радзімы", якія атрымала наша суполка "Сябры". Мы спадзяемся, што і надалей ваша цікавая газета будзе прыходзіць да нас.

У кастрычніку суполка плануе правесці літаратурна-музычны вечар аб Францішку Скарыне. Мы просім: калі ў вас ёсць матэрыялы пра Ф. Скарыну, дапамажыце нам.

Калі рэдакцыю цікавіць жыццё і дзейнасць нашай суполкі, то мы маглі б прыслаць інфармацыю па факсу.

Яшчэ раз вялікі дзякуй.

**М. АНІСКЕВІЧ,**
**сакратар суполкі "Сябры".**

***Ад рэдакцыі.*** *Рады новым сябрам. Патрэбныя матэрыялы, якія вас цікавяць, падрыхтавалі. Дадатковыя можна знайсці ў аб'яднанні "Спадчына". Чакаем паведамленняў.*

# У ВЫШЫВАНЦЫ НА КІПРЫ

Сёлета наша сямейка адпачывала на Кіпры. Гэта ўжо наш другі адпачынак на востраве. Першы раз мы там былі ў 1998 годзе. І вось зноў Кіпр. На гэты раз я паляцеў туды ў вышыванцы. Мне яе падарылі бабулька з дзядулькам. Ім вельмі хацелася, каб я ў вышыванцы нагадваў кіпрыётам пра нашу Беларусь, каб яны ведалі, што я з Беларусі, што я беларус. Хоць на Кіпры спякотна і ўсе ходзяць у адных шортах, я не адзін раз апранаў сваю родную беларускую вышыванку. У ёй я хадзіў на кіпрскі фантан і ў Луна-парк, які працуе з сямі-васьмі гадзін вечара. Там мяне сфатаграфавалі мама і тата.

Апрача вышыванкі я браў з сабою дзве газеты: "Раніца" ды "Голас Радзімы" і некалькі паштовак з нашым Васільком Вясёлкіным, а таксама колькі беларускіх каляндарыкаў, хацеў падарыць іх кіпрскім дзецям, але яны не разумелі, што такое каляндар. Праўда, дзве дзяўчынкі з цікавасцю разглядалі нашага Васю Вясёлкіна.

Кіпр — гэта шостая краіна, дзе мне давялося пабываць. Калі ў наступным годзе мы кудынебудзь паедзем, я зноў апрану сваю вышыванку. У ёй мяне заўважалі, думалі, з якой гэта я краіны. Адпачывалі мы ў Ая Напе.

**Сержык**
**ЧЫЛІКІН-САДЭЛЬСКІ,**
**вучань трэцяга класа.**

Мінск.



СТАСУНКІ



# СУСТРЭЧА ЛЯ ВОЗЕРА СЯЛЯВА



● **Віктар ТАЛОЧКА,** БелТА.

14-ты раз на беразе возера Сялява, што ў Мінскай вобласці, праводзіўся міжнародны маладзёжны злёт. Каля 200 чалавек з Масквы і Мінска, Ноўгарада і Львова, Кіева, Рыгі і Таліна прыехалі сюды, каб на працягу 10 дзён адпачыць, паўдзельнічаць у розных конкурсах і віктарынах, ды і проста пабыць разам. Раз'яднаныя маладыя людзі з краін былога Савецкага Саюза зараз маюць так мала магчымасцей сустракацца. А гэтыя сустрэчы праходзяць без усякай палітычнай падаплёкі. Па словах арганізатараў "Сялявы", ім ужо неаднаразова прапаноўвалі праводзіць злёт пад дахам некаторых палітызаваных маладзёжных арганізацый Беларусі. Аднак яны заў-



ЛІТАРАТУРНЫ ЭКСПРЭС—2000

# ГОРАД-КАРАБЕЛЬ

Юрый АНДРУХОВІЧ

Наўрад ці кароль Даніла Галіцкі, заснавальнік Львова, ведаў, што мясціна, выбраная ім для найстарэйшага з будучых гарадоў еўрапейскага Усходу, мае адну вельмі цікавую геаграфічную прыкмету. Згадваю тое боскае і ледзьве не дзіцячае захапленне, якое ахапіла мяне ў той момант, калі я даведаўся пра яе. Гэтая прыкмета здалася мне выключна сімвалічнаю, прынамсі зусім не выпадковаю. Страла, выпушчаная з каралеўскага лука ў сярэдзіне XIII стагоддзя, трапіла "ў яблычак".

Сутнасць прыкметы заключаецца ў тым, што па тэрыторыі горада, па яго амаль скрозь забрукаваных і замураваных узгорках праходзіць водападзел двух марскіх басейнаў — Балтыйскага і Чарнаморскага. Вяршыня нябачнага цяпер водападзельнага хрыбта знаходзіцца за некалькі сотняў метраў ад галоўнага чыгуначнага вакзала, ці, як трэба казаць тут, у Львове, двірця. Усе рэкі на поўнач ад гэтага пункта плывуць у Балтыйскае, а тыя, што на поўдзень, — у Чорнае мора. Месца скрыжавання дзвюх восей, што дзеляць безыменную прастору на ўсход—захад і поўнач—поўдзень, немінуча стала месцам скрыжавання гандлёвых шляхоў, а ў сувязі з гэтым і аб'ектам разнастайных інвазій — духоўных, палітычных, вайсковых, звычаёвых, моўных. Нямецкая назва горада — Lemberg — азначае не зусім тое самае, што лацінская Leopolis або санскрыцкая Сінгапур. У гэтым таксама можна бачыць знак "вададзейнасці" — прыналежнасці да многіх культур адначасова і разам з тым непрыналежнасці ні да адной з іх цалкам — гэтага горада, які яго выдатны раманіст міжваеннага перыяду назваў "горадам сцёртых межаў". Я, тым не менш, буду імкнуцца пазбегнуць публіцыстычнай спакусы назваць яго цяпер "горадам межаў, якія ўзводзяцца".

Замест гэтага выкарыстаем зусім супрацьлеглую метафару — не водападзел (тое, што падзяляе), а тое (я пакуль не ведаю, як гэта назваць), што аб'ядноўвае. Для палітыкаў гэта магло б стаць добрай нагодай, каб зноў пагаварыць пра балтыйска-чарнаморскую ідэю. Але я не зусім палітык, дакладней, зусім не палітык. Таму хацеў бы думаць і гаварыць пра нешта іншае. Напрыклад, пра львоўскую гарадскую каналізацыю — рэчку Полтву: гадоў яшчэ трыста таму назад па ёй плавалі паруснікі з Гданьска і Любека, а ў яе водах голымі рукамі лавілі змеепадобных атлантычных вугроў. Мінула якраз сто гадоў, як рэчку пахавалі пад зямлёю. У гэтым сэнсе Львоў — антыпод Венецыі. Тут так адчуваецца недахоп вады, што жыхары найстарэйшых кварталаў пакланяюцца асабліваму культу Кагосьці, Хто зрабіў бы вадою віно. У жніўні гэтая спякотная драма дасягае кульмінацыі. Адзіным паратункам тады могуць паслужыць навакольныя лясы і паркі з сапраўды каралеўскай раслiннасцю, з рэдкімі азёрамі, пакрытымі лілеямі, і з таямнічымі лекавымі крыніцамі, якіх, зрэшты, — лясоў, азёр, лілей і крыніц — становіцца ўсё менш і менш.

Гэта подых Поўдня, з кожным разам усё больш гарачы. Архітэктоніка Львова хутчэй лацінская, хутчэй раманская, хутчэй барокавая. У савецкі час менавіта ў Львове здымаліся фільмы, у якіх павінен быў з'явіцца Парыж або Рым. Калі ішлося пра Лондан або Стакгольм, то такі фільм рабіўся ў Рызе ці Таліне.

Львоў поўніцца атмасферай сярэднеземнаморскай культуры — калі прымусіць сябе яе пашукаць. Акрылены леў св. Марка на будынку венецыянскага консула Бандынэлі (плошча Рынак), як і фларэнтыйскі двор ці беззаганная смарагдавая coppola Дамінікане не ёсць нешта экзатычнае на карце горада. Пачынаючы з XVI стагоддзя, яго аблічча ў значнай ступені выштукоўвалі розныя італьянскія выгнанцы, прайдзісветы, валацугі і авантурысты, натхнёныя ідэямі рэнесанснага гуманізму, эпігоны высокага quattrocento, усе тыя героі плашча і шпагі, накшталт П'етра дзі Барбоны, Паўла Рымляніна Дамінічы, Амврозія Прыхільнага ці Калімаха Буанакорсі, усе тыя "куртуазныя маньерысты".

Раманскія акцэнты ў значнай меры дапаўняюць ці хутчэй ураўнаважваюць акцэнты візантыйска-грэчаскія. І справа не толькі ў візантыйскім выглядзе ўкраінскіх цэркваў. Справа ў асобай візантыйскай ментальнасці, якая з'яўляецца, магчыма, самай істотнай перашкодай пры нашым уваходжанні ў Еўропу, але і, магчыма, самай істотнай нашай абаронай ад гэтага ўваходжання.

Аднак наша падарожжа на поўдзень гэтым не вычэрпваецца. Бо я яшчэ не ўспомніў пра армян, якія рээмігрыравалі ў Львоў пераважна з Крыма, дзе ваяўнічы іслам пакідаў ім штораз меншую прастору для храмаў і крамаў. Ад іх бярэ пачатак адчувальная ў горадзе арыентальная першаснова. Персідскія кілімы львоўскай вытворчасці лічыліся лепшымі за ўласна персідскія, не кажучы ўжо пра пахі, пра разнастайнасць водару — імбіру, кардамону, шафрану, перцу, мускусу, цынамону; менавіта армяне прычыніліся да водараў львоўскага гарадскога жыцця. Здаецца, ніхто яшчэ і дагэтуль не расшыфраваў і не прачытаў надмагільных надпісаў на старых армянскіх могілках, хоць, па чутках, там выказаны рэчы надзвычай мудрыя і нам абсалютна неабходныя. Канцом армянскай суполкі ў Львове можа лічыцца 1946 год, калі бальшавікі ліквідавалі армянска-каталіцкі архіепіскапат.

Калі ж згадаць пра яўрэяў, то яны з'явіліся ў Львове яшчэ раней, чым армяне, недзе ў канцы XIV стагоддзя. І былі сярод іх не толькі ганчары, шынкары і ліхвяры, якіх са святым абурэннем ганьбіў сваім размашыстым лацінскім вершам з XVI стагоддзя Себасцьян Фабіян Кляновіч.

Як вось іржа раз'ядае жалеза,
а моль апранаху,
Так і яўрэй-гультаіна нішчыць,
руйнуе ўсё.

Былі сярод іх і вучоныя талмудзісты, і астролагі, і чарнакніжнікі, а таксама, спадзяюся, носьбіты халдзейскай мудрасці, уладальнікі таемных ведаў. Апошнія з іх былі знішчаны нацыстамі ў саракавыя гады, тыя ж, якія запоўнілі іхнюю нішу пасля, былі ўжо звычайныя, савецкія, здэнацыяналізаваныя. Той вымерлы тып галіцкага яўрэйства нарадзіў багата выдатных літаратурных постацей, да якіх належалі Ёзеф Рот, настальгічны эсэіст Юзеф Вітлін і, несумненна, Бруна Шульц — загадкава ўзбуйнелы плод з першасна-салодкім прысмакам.

Хто яшчэ плыў на гэтым караблі?

Немцы, або, як іх тут называлі, "швабы", пакінулі пасля сябе след у паперакручваных назвах львоўскіх прадмесцяў. Тое, што цяпер ведаем як Лычакіў, паходзіць на самай справе ад Luetzenhof, Замарстыніў — ад Sommerstein, Кляпарыў — ад Klopper, Маёраўка — ад Majer, Кульпаркіў — ад Goldberg і г. д. Быў яшчэ ўласнік вінарні на Замарстынаве з дужа выразным прозвішчам Макалёндра, і была Юзэфа Кун, манашка-бенедыктынка, аўтарка паэтычнага зборніка "Lembergs schöne Umgebungen", што значыць "Цудоўныя ваколіцы львоўскія".

Хто яшчэ апынуўся тут, у гэтых каютах і трумах, на палубе і мачтах?

Магчыма, дастаткова простага пераліку?

**Такім чынам: сербы, далмацінцы, арнауты, арганаўты, татары, туркі, арабы, шкоты, чэхі, маўры, баскі, скіфы, караімы, хазары, асірыйцы, этрускі, хеты, готы, белыя і чорныя харваты, кельты, анты, аланы, гуны, курды, эфіопы, цыклопы, агрыпы, лестрыгоны, андрагены, арыяне, цыганы, кінакефалы, элефантафагі, афрыканцы, мулаты і метысы, маларосы, масквафілы і мазахісты. Францысканe, капуцыны, кармеліты босыя і — адпаведна, даруйце, — кармеліты абутыя, бернардзіны, клярыскі, урсулянкі, сакраменткі, цэцыліянкі. Дамінікане, васіліяне, растафарыяне, рэдэмптарысты, потым езуіты, а яшчэ раней трынітарыі, якія прысвяцілі сябе выкупліванню хрысціянскіх нявольнікаў з усходняга рабства. Разейкронцэры, студзіты, тампліеры, раскольнікі, праваслаўныя і леваслаўныя.**

Я перакананы, што ўсе яны паспелі тут пабываць. Але ж я прыгадаў толькі некаторых, і мой пералік яшчэ зусім няпоўны. Бо Львоў ляжыць пасярэдзіне свету. Таго Старога Свету, які быў плоскі, трымаўся на трох кітах ці, згодна з іншымі версіямі, на чарапасе, а самай далёкай ягонай ваколіцай была Індыя, аб берагі якой разбіваліся хвалі Дуная, Ніла ці, магчыма, Акіяна.

Нават львоўская расліннасць зберагла неаспрэчныя адзнакі "ўсёгасці". Балтыйская сасна і крымскі кіпарыс без праблем суіснуюць у львоўскіх садах, кожны з якіх смела можна было б назваць батанічным.

Мы, людзі, — стварэнні неразважлівыя і няўдзячныя, змушаныя на тое, каб вечна нешта траціць. Ніколі не цэнім тое, што маем, чым надзелены звыш.

Адна з маіх любімых кніжак, "Гістарычныя прагулкі па Львову" Івана Крып'якевіча, змяшчае горасны раздзел пра ўжо не існуючыя святыні. Часам сябе пытаюся: калі б гэтая кніжка была напісана не ў 1931 годзе, а цяпер — наколькі больш доўгім і пакутлівым быў бы гэты раздзел? Мне не хапае ў Львове Залатой Розы. Мне не хапае татарскай мячэці і татарскіх могілак недзе пад Высокім Замкам — у XVI стагоддзі іх яшчэ паказвалі залётным збіральнікам ураженняў. Мне не хапае шмат іншых рэчаў, сярод якіх былі і штогадовыя львоўскія карнавалы, і нядзельныя банкеты для жабракоў, і напаўфантастычны звярынец у ваколіцах Пагулянкі.

Сёй-той з нас імкнецца выратаваць іх вершаваным радком. Але яны звычайна не даюцца і выслізгваюць. Бо Львоў — гэта сапраўды карабель-прывід.

Ідылічнае і небалючае напластаванне культур — гэта міф. І я не ўпэўнены, што гэты міф не шкодны. Зрэшты, даверымся класіку — вось як ён пісаў пра згаданае напластаванне: "Калі нехта ў нашым горадзе мучыцца ўначы ад бяссонніцы, то няхай прыслухаецца да начных галасоў. Выразна і важка адбіваюць час званы на каталіцкай катэдры: другая гадзіна ночы. Мінае трохі больш хвіліны... і якраз тады абзываецца голасам слабейшым, але больш пранiклівым звон праваслаўнай царквы, гэтаксама вястуючы пра другую гадзіну. Пасля нядоўгай паўзы чуваць хрыплы, далёкі гук гадзінніка на мячэці, аднак ён б'е адзінаццатую, нейкую таямнічую турэцкую пару, падпарадкаваную далёкаму, чужацкаму, хімернаму часаваму адліку. Гебраі не маюць на вежы гадзінніка, і толькі Бог ведае, якую гадзіну сведчаць іхнія хранометры паводле сефардыйскага, а якую паводле ашкеназійскага часу".

Гэта Іва Андрыч, а начны горад, пра які тут гаворыцца, — Сараева. Больш не скажу пра яго ні слова.

Напластаванне культур — гэта не толькі свята сцёртых межаў, гэта таксама і кроў, бруд, этнічныя чысткі, людажэрства, дэпартацыі. Напэўна, я абмовіўся і павінен быў бы гаварыць пра "напластаваннне антыкультур". Бо і яно абавязковае ў поліэтнічным асяроддзі.

Калі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя на ўзгорку св. Юра ў Львове збудавалі паказны барокавы храм, то гэта стварыла відочную адусюль архітэктанічную дамінанту. Гэта, несумненна, раздражняла шматлікіх рыма-католікаў, паколькі катэдра св. Юра належыць вернікам усходняга абраду. Адплата ўчынілася праз няпоўных дзвесце гадоў, калі на Прывакзальнай плошчы выстраліла ў львоўскае неба, быццам ракета, высокая вежа неагатычнага касцёла св. Альжбеты, засланіўшы сабою св. Юра з боку чыгуначнага вакзала. З таго часу прыезджыя ў Львоў страцілі панараму Святаюрскай гары. У калекцыянераў ураженняў на адно стала менш. Гэта таксама прыклад згаданага напластавання. Культур ці антыкультур? Чаго тут больш — рэлігійнай упартасці, пыхі, творчага саперніцтва, прагі ўласніцтва?.. Я не ведаю адказу, хоць і ўпэўнены, што сённяшні Львоў ужо немагчыма ўявіць і без гэтай псеўдагатычнай кічаватай "Альжбеткі".

У вулічных баях за Львоў у 1918 годзе палякі перамаглі ўкраінцаў яшчэ й найперш таму, што тады гэта быў **іхні** горад — і не ў нейкім абстрактнапазачалавечым вымярэнні, а якраз у найканкрэтным, асабістым — гэта былі іхнія брамы, дварышчы, завулкі, яны ведалі іх на памяць ужо хаця б таму, што менавіта там прызначалі першыя спатканні сваім дзяўчатам. Украінцы, падтрыманыя толькі агульнапатрыятычнай ідэяй пра "княскую славу нашага Львова", у пераважнай большасці паходзілі з вёсак і кепска арыентаваліся ў чужых для сябе ўмовах. Але калі пасля здабытай перамогі (ужываю гэта слова з усёй аднознасцю, на якую толькі здатны) польская адміністрацыя заістэрызавала тэрорам, рэпрэсіямі і знявагаю, то павяла сябе як прыблуда, агрэсар, заваёўнік чужога горада, як сляпы варвар, глухі да спаконвечнай львоўскай поліфаніі. І таму яна гэты горад страціла. Гора пераможцам — вось немінучы вынік любой перамогі.

Аднак тут мы адыходзім на забароненую тэрыторыю, усё далей ад культуры.

Як бачыце, я не вытрымаў абяцання гаварыць пра тое, што аб'ядноўвае. Можа, хоць вартай канцоўкай паспрабую ратаваць сітуацыю?

Тэзіс пра непадзельнасць культуры не заўсёды выглядае пераканаўчым. Культура Поўначы і культура Поўдня, культура Усходу і культура Захаду (улічым пры гэтым, што існуюць таксама Паўночны Усход і Паўднёвы Захад, і яны маюць сваіх антыподаў, і ўсё гэта мае безліч нюансаў) паняцці настолькі нявызначаныя, наколькі і непаяднальныя. І толькі добраю міласцю Таго, Хто Раздае Геаграфію, часам удаецца нешта з нечым паяднаць. Да таго ж, на проста-такі смешнай падставе — напрыклад, водападзеле двух марскіх басейнаў. Але дзякуючы гэтаму якраз тут і цяпер, у канцы стагоддзя і тысячагоддзя, маем цудоўную магчымасць быць пасажырамі аднаго з караблёў, які плыве, як здаецца нам, у наогул прадбачаным напрамку. Магчыма, гэта нават каўчэг, дзе, як заўсёды, у старым эклектычным Львове, нас сабралі, каб ўратаваць "каждой твари по паре". Магчымыя і іншыя метафары з караблямі — п'яны карабель, карабель дурняў, карабель смерці. А можа, як у Рота, — горад сцёртых межаў, плывучы Трыест, вандроўны Львів, Львув, Львов, Лемберг, Леаполіс, Сінгапур...

**Пераклаў з украінскай мовы Вячаслаў РАГОЙША.**



сёды адмаўляліся, жадаючы захаваць злёт у яго першапачатковым камсамольска-маладзёжным выглядзе. І хаця ідэі камсамола тут прызабытыя, атмасфера сяброўства, узаемаразумення і інтэрнацыяналізму на злёце захаваны поўнасцю.



НА ЗДЫМКАХ: удзельнікі злёту "Сялява"; на сцэне каманда з Кіева і сабака з Мінска; каманда "Калгас Ураджай" з Масквы; парад удзельнікаў злёту; прыемная цырымонія пасвячэння першагодак.





Коні, выгадаваныя ў калгасе "Прагрэс" Гродзенскага раёна, добра вядомыя ў конна-спартыўных школах Расіі, Германіі, Італіі. Туды ў гэтым годзе ўжо адпраўлена некалькі партый беларускіх скакуноў. Прычым, з выгадай для калгаса. За аднаго паўтарагадавалага жарабца, напрыклад, маскоўскі конна-спартыўны комплекс "Бітцы" заплаціў 27 тысяч долараў ЗША. А ў канюшнях гаспадаркі гатовыя да продажу больш за 500 коней.

НА ЗДЫМКАХ: вучэбная група на канкурным полі.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## ЖАРТЫ

**Жонка кажа мужу:**

**— І навошта ты п'еш гэтую брыдоту?**

**— Каб наступны раз ты не гаварыла, што мы з сябрам прыемна бавім вечары...**

**Кастусь КАРНЯЛЮК.**

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКІ, ЗМЕШЧАНЫЯ Ў №№ 33, 35.

***ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.*** *1. Нумарацыя. 6. Экран. 8. Нерат. 10. Сотка. 11. Аксаміт. 12. Лагер. 14. Адвар. 16. Гарлач. 17. Прытча. 18. Дратва. 20. Адрына. 25. Скарб. 26. Атава. 27. Арсенал. 28. Уклад. 30. Абора. 32. Парус. 33. Ліхаманка.*

***ПА ВЕРТЫКАЛІ.*** *1. Ніва. 2. Аркестр. 3. Абармот. 4. Ярмо. 5. Аншлаг. 7. Даярка. 9. Тарка. 10. Стаер. 13. Гармата. 15. Вотчына. 18. Дыспут. 19. Вобад. 21. Джала. 22. Атаман. 23. Застава. 24. Бандура. 29. Авал. 31. База.*

* * *

***ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.*** *1. Вымпел. 3. Какава. 6. Акорд. 9. Зварот. 11. Аблава. 13. Маска. 14. Аазіс. 18. Адзнака. 19. Абанент. 20. Дырыжор. 23. Плагіят. 25. Парад. 26. Есаул. 30. Каралі. 31. Артыст. 32. Кліка. 33. Павага. 34. Лакмус.*

***ПА ВЕРТЫКАЛІ.*** *1. Ваза. 2. Паром. 4. Калос. 5. Авал. 7. Катарга. 8. Рагатка. 10. Тасьма. 11. Адзежа. 12. Рэкардыст. 15. Картатэка. 16. Азарт. 17. Зеніт. 21. Жмуркі. 22. Раздзел. 23. Палетак. 24. Адвага. 25. Прага. 27. Латок. 28. Акоп. 29. Стос.*

## ВОСЬ ДЫК ГРЫБ!



Большасць нашых чытачоў нават не ўяўляе, што трымае ў руках мой унук Саня. Вось такі грыб-баран прэзентаваў яму сусед па дачы дзядзька Сярожа. Менавіта гэты грыб, сапраўды падобны да барашка, называюць яшчэ "шчасцем грыбніка", бо сустракаецца ён вельмі рэдка, а памерамі бывае з добры качан капусты.

Адвараны і падсмажаны з цыбуляй, грыб-баран — сапраўдны далікатэс.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

## ДЭТЭКТЫЎНАЕ АПАВЯДАННЕ

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

# НЯЧЫСТАЯ СІЛА

**Аляксей ЯКІМОВІЧ выдаў чатыры кнігі для дзяцей: "Гордзіеў вузел", "Сакрэт Тунгускага метэарыта", "Эльдарада просіць дапамогі", "Пастка для пярэваратня".**

**Па яго п'есах пастаўлена пяць спектакляў у тэатрах Беларусі.**

**Сёлета выдавецтва "Мастацкая літаратура" рыхтуе да выдання зборнік дэтэктыўных апавяданняў А. Якімовіча"Тэлефонны званок". Адно з іх прапануем увазе чытачоў.**

1

Тужліва, нібы скардзячыся, рыпнулі дзверцы шафы. Вочы ўбачылі на паліцы тонкую чорную кофту, чорную хусцінку і чорную спадніцу. Краечкі вуснаў прыўзняліся ва ўхмылцы, а рукі зграблі кофту, хусцінку і спадніцу і кінулі ў поліэтыленавы пакет, на якім вялікімі чырвонымі літарамі было напісана: "Свету — мір".

— Свету — мір! — уголас прамовілі вусны і зноў застылі ва ўхмылцы, а грудзі цяжка задыхалі, захадзілі. У грудзях выспявала помста.

Вочы ўбачылі драўляны малаток з доўгай ручкай. Правая рука ўзяла яго, моцна сціснула пальцамі, а левая, схапіўшы з шафы ручнік, хутка і ўмела абкруціла малаток, бо план, які яшчэ раней нарадзіўся ў галаве, быў такі: да смерці не забіваць, а толькі аглушыць, каб нагнаць страху.

"Не забіваць! Не забіваць!" — не прагаварылі, а праспявалі вусны. Рука зачыніла дзверцы. Цяпер яны рыпнулі весялей, нават з нейкім адчайным выклікам, у такт тым словам, што праспявалі вусны.

Ногі смела затупацелі па падлозе, а ў галаве прабеглі думкі, якія цешылі, неслі радасць: "Вылезу праз акно. Ніхто мяне не заўважыць, ніхто не падумае, што менавіта я гэта зрабіў. Я! Я! Я не чарвяк, а ўсемагутны страх, які многіх прымусіць ўздрыганувцца і загаварыць пра мяне. Мой незвычайны ўчынак будуць абмяркоўваць як самую важную сусветную навіну. Неўзабаве я як постаць, як нячыстая сіла з'яўлюся на могілках. Мая ахвяра таксама з'явіцца там".

2

Могілкі знаходзіліся за вёскай, на ўтравелым пагорку, на якім раслі кусты бэзу, хвойкі, дзікія грушы, бярозы. Постаць у чорным — у чорнай хусцінцы, чорнай кофце і чорнай спадніцы — стаяла за мармуровым помнікам, на якім можна было прачытаць словы, выбітыя роўнымі белымі літарамі: "Дарагому тату і дзядулю".

З вёскі даносіліся галасы хлопцаў і дзяўчат, якія ў гэтую цёплую летнюю ноч ніяк не маглі ўгаманіцца, заснуць.

Постаць у чорным з нецярпеннем пераступіла з нагі на нагу і рушыла туды, дзе раслі густыя кусты бэзу. Пад ногі трапіў стары крыж. Постаць з сілай наступіла на яго. Крыж трэснуў, паламаўся.

Рука выняла з кішэні чырвоную губную памаду і правяла ёю па твары раз, другі, трэці, пакідаючы на ім няроўныя тлустыя пісягі, падобныя на крывавыя драпіны.

— Ха-ха-ха, — задаволеная сабою, зарагатала постаць у чорным і, выцягнуўшы ногі, села на магільны грудок.

А ў кустах бэзу, радуючыся жыццю, цёхкаў, заліваўся песняй салавей.

3

Дзесяцікласніцы Алена і Марына сядзелі на лаўцы пад густой разгалістай ліпай. Вечар выдаўся цёплы, лагодны. Тоненька дзынькалі надакучлівыя камары, у паветры бясшумна, нібы стрэлы, насіліся лятучыя мышы, здабываючы сабе яду. Марына, высокая, пышнацелая, круглатварая, абняла Алену за плечы і прагаварыла:

— Аленка, ты такая худобіна! Скура ды косці!

— Былі б косці, а мяса нарасце, — ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказала Алена.

Марына ўздыхнула.

— Сяброўка, зайздрошчу я табе. Хоць ты і худобіна, і чорная, як цыганка, а хлопцы проста ліпнуць да цябе. Пеця і Толік хутка паб'юцца. Сама чула, як учора сварыліся.

Алена закінула рукі за галаву і з асалодай пацягнулася.

— Марына, яны ж нашы аднакласнікі!

— Заморскага прынца сабе хочаш знайсці? — усміхнулася Марына.

— Можа, і прынца, — у задуменні прагаварыла Алена. — Скончу школу і паеду, палячу адгэтуль. У вялікім горадзе буду жыць.

— Аленка, ты сёння паабяцала Пецю і Толіку, што ў дзве гадзіны ночы сходзіш на могілкі, нарвеш там суніцаў і зранку пачастуеш іх, — напомніла Марына.

— Як сказала, так і зраблю, — прамовіла Алена.

— Не пабаішся?

Алена зірнула на Марыну, бліснуўшы вачыма.

— Не пабаюся!

Марына пакруціла галавою.

— Аленка, не хадзі. Яны ўжо забыліся пра тваё абяцанне.

— А я ім напомню, падатру нос.

Марына сарвала з ліпы лісток і, парваўшы яго, кінула пад ногі.

— Навошта гэта табе трэба? Ты ж хаваешся ад іх, надакучылі яны табе.

Алена адкінула галаву, стала глядзець на зоркі, густа рассыпаныя на вячэрнім небе.

— Я і сама не ведаю, навошта мне гэта трэба.

— Упартая ты! — сказала Марына.

— Вельмі ўпартая, — пагадзілася Алена.

Марына крыху памаўчала, а потым прагаварыла:

— У дзве гадзіны ночы я ні за якія грошы не пайшла б на могілкі.

— Таму да цябе хлопцы не ліпнуць, — засмяялася Алена.

4

А палове другой гадзіны ночы, каб не разбудзіць бацьку і маці, Алена, узяўшы са стала кубак, праз акно вылезла на двор і накіравалася на могілкі.

На другім канцы вёскі, каля клуба, іграў баян. "Там, пэўна, участковы Косця. Уздыхаючы, пазіраюць на яго дзяўчаты", — падумала Алена. Вечарам яна не прызналася Марыне, што пакахала маладзенькага лейтэнанта, якога на днях прызначылі ўчастковым у іхнім калгасе. Высокі, бялявы, мускулісты, падобны на герояў замежных баевікоў, ён адразу, як толькі ўбачыла яго, ёй спадабаўся. Вядома, Косця не заморскі прынц, але ёсць у ім нейкая таемная сіла, якая прыцягвае як магнітам.

Учора ў клубе былі танцы. Яна знарок некалькі разоў прайшла каля Косці, а ён нават вухам не павёў. Нехта абавязкова раскажа Косцю, як яна ноччу хадзіла на могілкі, як прынесла суніцаў. Іншымі вачыма паглядзіць ён на яе.

—— Працяг будзе. ——

## СМАЧНА ЕСЦІ!







### ЯК ПРЫГАТАВАЦЬ РЫБУ

Рэцэпт аўтара: як заўсёды, рыбу пачысціце, выпатрашыце, парэжце на кавалачкі. А калі будзеце абвальваць у муцэ з соллю (2 сталовыя лыжкі мукі і 1 чайная лыжка солі), трэба прышэптваць: "Задаволь, "залатая" рыбка, усіх гасцей". Пакіньце на талерцы на 10—15 хвілін (але глядзіце, каб кот не з'еў). Падсмажце на скавародцы на алеі.

Смакаваць страву лепей з салатам ды чаркай, тады і костачкі смачнымі здадуцца.

**Фотапарады Зінаіды МІШУРЫ.**


«Голас Радзімы»

**Галоўны рэдактар Наталля САЛУК**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**

**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".**

**РЭДАКЦЫЯ:**

Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.** Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.** Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.** Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.** Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.** Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.** Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.** Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.** Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.**

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2181.
Падпісана да друку 4.9.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку», (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).